# Сустрэча са сталічнай трыядай

19 чэрвеня ў музеі Караткевіча прайшла сустрэча мясцовай інтэлігенцыі з гасцямі з Менску – пісьменнікам Уладзімірам Арловым, мастаком Аляксеем Марачкіным і бардам Зміцерам Бартосікам.

**А. Ршанскі**

Трэба сказаць, што музей знакамітага аршанца апошнім часам паступова пераймае ў пушкінскай бібліятэкі прыярытэт гарадскога інтэлектуальнага клуба, раней непадзельна належны літаратурна-мастацкім гасцёўням ЦГБ. Сустрэчы з вядомымі дзеячамі нацыянальнай культуры менавіта ў зале музея Караткевіча становяцца ўжо традыцыяй. Становяцца прыемнай традыцыяй і перыядычныя візіты ў Оршу Ўладзі Арлова і Зміцера Бартосіка, а вось вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін на маёй памяці ўпершыню прыязджае да нас.





*Старонкі «Краіны Беларусь»*

Сустэча была не проста так: Арлоў прадстаўляў аршанцам нядаўна выйшаўшую ў Чэхіі кнігу "Краіна Беларусь" і выйшаўшую ў Беларусі – "Ордэн Белай мышы". Калі апошняя – чарговая кніга прозы Арлова (дарэчы, з ілюстрацыямі Марачкіна), якая праляжала ў выдавецтве пэўны час і выйшла ў многім нават нечакана для самога аўтара, то "Краіна Беларусь" – кніга іншага кшталту. Гэта дарагое падарачнае выданне з выдатнай паліграфіяй і не менш выдатна ілюстраванае – дзве тысячы ілюстрацый – аб гістарычным шляху і культурных набытках краіны за больш чым тысячагадовую гісторыю. Яна развівае і паглыбляе тэму рэтраспектыўнага агляду нашага шляху, паднятую ў папярэдняй кнізе Арлова ў сааўтарстве з гісторыкам Генадзем Сагановічам "Дзесяць вякоў нашай гісторыі". Дарэчы, апошняя не так даўно вытрымала ўжо чацвертае выданне 300-тысячным накладам і не можна было набыць на сустрэчы.

"Краіна Беларусь" настолькі грунтоўна зроблена, што, як паведаміў на сустрэчы пісьменнік, надоечы ладны стос асобнікаў кнігі нават быў набыты Адміністрацыяй прэзідэнта для ўручання выдатнікам вучобы. Адзін асобнік "Краіны Беларусь" Ўладзімір Арлоў падарыў гасціннаму музею. Аляксей Марачкін, у сваю чаргу, падарыў музею сваю жывапісную работу "Ўкрыжаванне", а Зміцер Бартосік, канешне ж, прэзентаваў удзельнікам сустрэчы свае песні.

# "Полацк – транзіт – Орша" –

так называецца выстава мастакоў гэтых гарадоў, якая працуе у выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі.

**А.Кавалева**

Орша прадстаўлена на выставе больш шырока – свае работы дэманструюць Ігар Акеньшын, Аляксандр Ермалаеў, Уладзімір Батура, Ігар Хадзянок, Аляксандр Шылко, Аляксей і Тацццяна Карук дый іншыя мастакі. Ёсць на выставе і работы майстроў дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва.

Выстава ў Віцебску будзе працаваць да 12 ліпеня, пасля чаго пераедзе у поўным складзе ў Оршу. З 16 ліпеня яна будзе працаваць у гарадской выставачнай зале.

# Мой любимый город

## Какой подарок сделать тебе в день рождения?

С этим вопросом наш корреспондент Елена Кожемячко обратилась к молодым людям города.

**Сергей, 27 лет, программист:**
– Занялся благоустройством в собственном микрорайоне. А были бы деньги, открыл в каждом районе города развлекательный центр для детей и молодёжи. Ведь наши дети ходят по городу без дела.

**Татьяна, 22 года, студентка:**
– Убрала бы мусор возле дома и потратила деньги на праздник.

**Вадим, 8 лет, школьник:**
– Не знаю.

**Александр Иванович, 22 года, предприниматель:**
– Благоустроил бы свой город и по возможности открыл хороший ночной клуб.

**Наталья, 30 лет, педагог, ныне домработница:**
– Открыла бы своеобразный центр занятости детей и подростков. Согласна работать на общественных началах.

# Пра Польшчу і не толькі



**ЯК ТАМ УСЁ МЯНЯЛАСЯ**

Дарога да дэмакратыі ў Польшчы была доўгай і шматпакутнай. Перамога цывілізацыйных сілаў мела некалькі складнікаў. Першым з іх быў, безумоўна, Касцёл. Ён захаваў польскую традыцыю, культуру, мову і, што было важным за савецкім часам, веру. Аўтарытэт Касцёлу быў заўжды настолькі вялізным у польскім грамадстве, што нават камуністы, якія на абшарах былога СССР зруйнавалі не адзін дзесятак царкваў, не падымалі на яго руку. У выніку Касцёл і спрычыніўся да фіяска кампартыі ў Польшчы.

Таксама вялікая роля ў тым, што зараз палякі жывуць у еўрапейскай дзяржаве, належыць працы польскай службы радыё "Свабода". Ейны бяссменны кіраўнік – Ян Новак Езяраньскі – зрабіў некалі ўсё, каб польская "Свабода" не толькі распавядала праўду пра падзеі ў краіне і за яе межамі, давала дакладную інфармацыю і маральна падтрымлівала палякаў на фактычна акупаванай савецкім рэжымам тэрыторыі, але і абуджала польскі гонар і годнасць. Штодня ў радыёэфіры гучалі перадачы пра польскую культуру, спадчыну, гісторыю, пра выбітных людзей Польшчы, якія змагаліся за свабоду свайго народа, рабілі знакамітыя на ўвесь свет вынаходніцтвы, пісалі выдатную музыку, сачынялі геніяльныя літаратурныя творы, якія пры любым рэжыме будуць гонарам Польшчы. Сп. Езяраньскі лічыць, што беларусам якраз і не хапае самапавагі. "Мы, палякі, ведаем, што Касцюшка, Ажэшка ды Міцкевіч паходзяць з беларускіх краёў. Што эліта Вялікага княства Літоўскага размаўляла на беларускай мове. Застаецца толькі спадзявацца, што і беларусы зразумеюць, што маюць неблагі стартавы капітал".

Бясспрэчна таксама, што Польшча не жыла б зараз гэтак, калі б не людзі. Многія з іх пад пагрозай свайму жыццю набліжалі час, калі камуністычная ўлада ўсё ж саступіла і Польшча перастала быць краінай "сацыялістычнага лагера". Што ні кажыце, а дэмакратыі без дэмакратаў не бывае.

**ПРАБЛЕМЫ СЁННЯШНЯГА ДНЯ**

На жаль, рэчаіснасць – справа, далёкая ад казкі ці рамантычнае мары. Менавіта таму і ў Польшчы багата праблем. Праўда, суседскія цяжкасці вельмі розняцца ад нашых. Так, галоўнае, што зараз турбуе польскае грамадства – уступленне ў Еўразвяз. Сёння ў гэтай структуры назіраецца пэўная крыза, якая сталася вынікам вайны ў Іраку і неадназначнага стаўлення краінаў ЕЗ да яе. Аднак для палякаў уваход у сям'ю еўрапейскіх народаў – гарантыя бяспекі на доўгія гады. Да таго ж гэта яшчэ і стабільная дапамога ў эканамічнай сферы, што, пагадзіцеся, не так ужо і мала. У сувязі з гэтым за ўступленне ў Еўразвяз выступаюць амаль усе палітычныя сілы Польшчы. Нават польская "левыя" – самыя шчырыя еўрааптымісты. Хаця, трэба сказаць, палякі атрымаюць ад далучэння не ўсё, на што разлічвалі раней – Еўропа не спяшаецца і плануе ўсё не на доўгія тэрміны, таму далучэнне Польшчы абыдзецца звязу "даволі танна".

Палякі ж не сумуюць праз гэта. Яны ведаюць, што маюць вялікія козыры. Акрамя трывалых адносін з еўрапейскімі дзяржавамі, ў Польшчы проста выдатныя стасункі з Амерыкай.

Калі палякі адказваюць на пытанне пра магчымы ўваход у ЕЗ Беларусі ці нават Украіны, дык зазвычай карыстаюцца выразам "гэта пакуль што больш звычайнае жаданне", якое яшчэ не падтрымліваюць еўрапейскія народы. Еўропа мусіць адкрыцца для Ўсходу, толькі тады будуць магчымы размовы падобнага кшталту. А пакуль у Еразвязе існуюць нават такія праекты, як праца толькі з Расіяй і арыентацыя толькі на яе, не ўлічваючы інтарэсаў беларусаў ды ўкраінцаў. Шчырым прыхільнікам такой палітыкі з'яўляецца Францыя. Палякі ж разумеюць, што толькі еўрапейская Беларусь ды Украіна змогуць выратаваць Расію ад росту імперскіх настрояў і вяртання назад.

**ПАРАДОКСЫ ПА-ПОЛЬСКУ**

Сённяшняя Польшча перажывае некалькі парадаксальных для ейных жыхароў момантаў. Першы з іх – рост "тугі па мінулым" у вёсках. Справа ў тым, што сельскае насельніцтва нашае заходняе суседкі ніколі не падтрымлівала камуністычнага рэжыму, не любіла СССР і сніла кожную ноч, калі зямлю вернуць сапраўды тым, хто хоча на ёй працаваць. Сялянам не падабаліся калгасы, частковая калектывізацыя і "чырвоныя" парадкі. Менавіта вёска была найбольш радыкальна настроена ў перыяд змагання польскіх дэмакратаў з таталітарнай сістэмай. Аднак мінуў час. Краіна, здаецца, атрымала усё, пра што так доўга марыла, а вёскі ўсё ў "апазіцыі". Што здарылася? Дробныя польскія фермерскія гаспадаркі баяцца новых працэсаў, у якія ўжо незваротна ўцягваецца іх дзяржава. "Калі Польшча далучыцца да Еўропы, рынак харчавання стане празрыстым і мы проста збанкрутуем – мы не вытрымаем канкурэнцыі з заходнімі вытворцамі", – распавядаюць фермеры, якія цяпер гатовы падтрымаць хоць чорта лысага, абы ўсё вярнулася назад.

Другі парадокс звязаны з такім модным сёння тэрмінам як "міграцыя працоўнай сілы". Для палякаў гэта сапраўды будзе гора-бяда. Сёння ў пошуках большых заробкаў ды камфортных умоў працы Польшчу пакідаюць лепшыя лекары-адмысловцы. Зразумела, што яны з'яжджаюць на Захад, пакідаючы абшары роднай краіны, а заадно і польскіх пацыентаў. Пасля ўваходу ў Еўразвяз спецыялісты розных сфер скарыстаюць момант, каб заробіць больш грошай на чужыне. Аднак, як у кожнай з'яві, і ў гэтай ёсць свой дадатны бок. Польскія эканамісты чакаюць вялікага прытоку юрыстаў з краін Заходняй Еўропы, дзе цяпер рынак адвакацкіх паслуг перанасычаны, і ўжо маладыя немцы, французы ды італьянцы змогуць найлепш рэалізаваць сябе на Усходзе. Зрэшты, на гэтым парадоксы завяршаюцца. Далей пачынаецца простае еўрапейскае жыццё.

**ЭПІЛОГ**

Беларусам, на жаль, ёсць чаму павучыцца ў палякаў. На жаль, бо не палякі будуць вучыцца ў нас. Сапраўды, нам трэба больш пільна прыглядзецца да тых, хто толькі нядаўна (літаральна некалькі гадоў таму), знаходзіўся на такімсама ўзроўні, што і мы. Сёння гэтыя "суседзі" настолькі адарваліся ад нашай дзяржавы, што наўрад ці можна з дакладнасцю назваць той прамежак часу, які зараз раздзяляе разрыў паміж іхным ды нашым развіццём.

Польшча даўно будуе сваю новую дзяржаўнасць, замацаваную на традыцыі і разуменні сучасных сусветных працэсаў. Беларусам жа пакуль даводзіцца за гэтым толькі моўчкі назіраць і спадзявацца, што некалі "загляне сонца і ў наша ваконца".

# Полезное с приятным

**Внимание!**

## Новая акция!

Редакция оршанского выпуска газеты "Віцебская трыбуна" объявляет о новой акции. С 1 июня 2003 года каждый нештатный автор нашей газеты сможет **получать газету бесплатно в течение полугода.**

Если хотя бы один ваш материал будет опубликован у нас, вы сможете регулярно из почтового ящика доставать оршанский номер "Віцебскай трыбуны", оставаясь в курсе самых свежих оршанских событий.

**Уважаемые оршанцы!**

Вы можете бесплатно разместить в нашей газете рекламные объявления по тел. **3-36-32.**






*Пераможцы спаборніцтваў*

## Фестываль грамадскіх арганізацый

У мінулыя суботу і нядзелю на беразе ракі Адроў праходзіў спартыўна-турыстычны фестываль моладзі шэрагу грамадскіх арганізацый Оршы і Барані. Праходзілі спаборніцтвы па футболу, перацягванню каната, конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці і нават плакатаў, выпушчаных у палатках у час "кароткачасовых дажджоў".

У выніку першынство заваявала каманда Барані, якой і дастаўся пераходны прыз.



## Объявления

### Продам

А/м «Мазда-626» 1991г.в.
**2-72-30, после 18.00**

Оконный блок застекленный.
**2-62-96**

3-комнатную квартиру на Восточке. 9-й этаж
**2-70-67**

Обувь производства львовских фабрик. Недорого. **Обращаться на минирынок микрорайона Раница.**

Срочно дом по ул.Ленина, участок 0,15га, сад. Обращаться: **ул.Марата, д.12, кв.53** (ост. «Раница»).

Спортивные товары, мячи, костюмы. **Обращаться на место №17 на центральном рынке,** возле рыбного павильона.

Капитальный гараж по ул.Белинского (р-он таксомоторного парка).
**4-07-25**

Дом с участком 10 соток, капитальный гараж, хороший сад.
**4-25-17**

Однокомнатную квартиру в д.Крапивно.
**7-97-67 с 8 до11**
(спросить Нину Тихоновну)

Газовые баллоны, газовую настольную плиту, электроплиту, все б/у в хор. состоянии.
**2-01-60, после 17.00**

Дачу в д.Пашино.
**2-72-30**

Швейную машинку «Singer», 50 тыс. руб.
**3-ий пер.Марата, 44,** спросить Кухлевскую Инну

Люстру Чижевского.
**5-10-44**

Телевизоры «Витязь», «Березка», «Горизонт», «Рекорд» на запчасти.
**2-01-60, после 17.00**

### Меняю

Полдома в г.Барань на жилье в Орше.
**3-00-16**

### Сниму

Дом на длительный срок.
**2-28-73**

Двух-, трехкомнатную квартиру с телефоном на длительный срок.
**3-36-32 (днем),**
**2-45-42 (вечером)**

### Работа

Ищу работу уборщицы.
**4-37-61, после 17.00**

### Куплю

Участок под строительство в р-не движения гор. автобусов.
**6-81-69**

### Услуги

Делаю печи, камины.
**6-74-49**

Любителям экстрима – полеты на мотодельтаплане.
**6-67-56**

Сложу печь, камин.
**(8-02136) 3-66-41**



## Погода

**27 июня** ожидается облачная, с дождями погода. Ветер северный, умеренный.



Температура ночью около +10+15, днем +15+20 градусов.



**28-30 июня** – переменная облачность, преимущественно без осадков. Ветер северный, с переходом на западный, умеренный. Температура ночью +8+13, днем +17...+22.

## Каляндар святаў і памятных дат

**28 чэрвеня** – Дзень вынаходніка і рацыяналізатара.
**29 чэрвеня** – Дзень моладзі
У 1958 г. у Оршы ўпершыню праведзена свята моладзі.
**30 чэрвеня** – Дзень эканаміста.
У чэрвені таксама адбыліся наступныя падзеі:
**1873 г.** – У Барані заснаваны драцяна-цвікавы завод (цяпер РУП "Лес")
**1918 г.** – Створаны саўгас "Вусце".
**1943 г.** – На базе групы У.Я.Сарнова сфарміраваны партызанскі атрад "Дзядзькі Косці"
**1963 г.** – Пры аршанскім гаркамгасе створаны першы жыллёва-будаўнічы кааператыў.
**1 ліпеня** – сусветны дзень архітэктуры.
**У 1903 г.** у Оршы адкрылся Аляксееўская жаночая гімназія.
**У 1963 г.** у Оршы нарадзіўся Ігар Мікалаевіч Жалязоўскі, беларускі спартсмен, заслужаны майстар спорту, заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі, 6-разовы чэмпіён свету, Ганаровы грамадзянін Оршы.
**3 ліпеня** – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі). Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.
**У 1953 г.** у газеце "Ленінскі прызыў" (цяпер "Аршанская газета") з'явіўся першы друкаваны твор Янкі Сіпакова – верш "Вітай, Беларусь!".
**5 ліпеня** – Міжнародны дзень кааперацы.
**7 ліпеня** – Купалле (нараджэнне Іаана Прадцечы).
**10 ліпеня** – Орша ўпершыню згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў", як "Рша у СмолінськА".

## Конкурс!

У сувязі з падрыхтоўкай да 1 рэспубліканскага экалагічнага форуму, які адбудзецца ў верасні ў нашым горадзе, гарвыканкам, аддзел культуры, музейны комплекс і літаратурнае аб'яднанне "Дняпроўскія галасы" аб'яўляюць конкурс на лепшы літаратурна-мастацкі твор аб прыродзе і конкурс на лепшы фотаздымак на тэму "Прырода Беларусі".

Літаратурны конкурс праводзіцца з 12 чэрвеня па 23 жніўня. У ім могуць прыняць удзел творчыя аб'яднанні і асобныя грамадзяне. Памер твора – не больш двух друкаваных аркушаў на беларускай ці рускай мовах. Апошні тэрмін здачы твораў – 22 жніўня.

Конкурс на лепшы фотаздымак праводзіцца з 12 чэрвеня па 10 ліпеня. Фотаработы трэба прадставіць асабіста, чорна-белыя або каляровыя, памерам не менш 20x30см.

Усе матэрыялы на конкурс прадстаўляюцца ў музей Уладзіміра Караткевіча па адрасе: вул.Леніна, 26, загадчыку музея Іне Пятроўне Байковай (2-67-48) альбо старшаму навуковаму супрацоўніку Вользе Міхайлаўне Пашковіч (2-00-26).

## Во имя победы

1. Командир партизанского отряда в Беларуси, первый из партизан удостоенный звания Героя Советского Союза. 2. Подразделения роты, эскадрона, батареи. 3. Генерал-майор, белорус, доблестный защитник Москвы. 4.Церемония смены караулов. 5. Контрадмирал , белорус, защитник Ленинграда. 6. Священная обязанность. 7. Рубеж. 8. Захватчик, враг. 9. Сбор сведений о противнике. 10. Стремительное нападение войск. 11. Один из организаторов Минского подполья в годы Великой Отечественной войны. 12. Боевая машина. 13. Народный художник Беларуси, автор скульптуры "Батька Минай". 14. Время наивысшего напряжения в развитии боя, сражения. 15. Воинское подразделение. 16. Гараж для самолётов. 17. Набег подвижных военных сил в тыл противника. 18. Магазин, вмещающий патроны. 19. Направление движения корабля, самолёта. 20. Военнослужащий стрелковых войск. 21. Холодное оружие. 22. Маршал бронетанковых войск, Герой Советского Союза. 23. Один из создателей танка Т-34. 24. Углубление в стенке окопа, траншеи. 25. Склад оружия и военного снаряжения. 26. Генерал армии, дважды Герой Советского Союза. 27. Надежная защита, твердыня. 28. Молодогвардеец, Герой Советского Союза. 29. Главный маршал авиации, дважды Герой Советского Союза. 30. Огнестрельное оружие. 31. Устройство для автоматического управления летательным аппаратом. 32. Стрельбище. 33. Строй самолётов.

*Правильно разгадав кроссчайнворд, по буквам в кружочках в центре рисунка по ходу часовой стрелки прочтете кодовое название военной операции по освобождению Беларуси от немецко-фашистских захватчиков.*



Віцебская ТРЫБУНА
Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць № 1646, выдадзена 26 чэрвеня 2001 года.
Адрас рэдакцыі: 210001, г.Віцебск, вул.К.Маркса, 14.
Заснавальнік: ЦМІ «Контур»
Галоўны рэдактар Сяргей Серабро
Адрас для допісаў: 211030 Орша-12, а/с 314. Тэл./факс в Орше: 3-36-32.
E-mail: kryvich@orsatbm.lingvo.vitebsk.by.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі, не вяртае і не рэцэнзуе рукапісі. За дакладнасць матэрыялаў адказваюць іх аўтары.
Пры перадрукоўцы спасылка на «Віцебскую трыбуну» абавязковая. Набрана і звярстана на рэдакцыйным абсталяванні.
Надрукавана з гатовых дыапазітываў ва УПП «Віцебская абласная друкарня», вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6. г.Віцебск, 210015.
Заказ: 4444. Наклад: 1000. Падпісана ў друк 26.06.2003г. у 11.00. Аб'ём 2 друкаваных аркуша.